# Заўтра вялікае свята — Дзень Перамогі. Віншуем!

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 51(5233)
Аўторак, 8 мая 2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

# Чырвоны сцяг над рэйхстагам

***Над Берлінам усю ноч грукатала артылерыя і ўзнімаліся зарніцы пажараў. Вайна заканчвалася. А вакол на ўсю моц ужо буяла вясна.***

***У сяржанта Лашкевіча, вартавога каля штаба камандуючага артылерыяй 3-й арміі другога Беларускага фронту, заканчвалася дзяжурства, калі ён пачуў зычны голас радыста: "Ура! Сцяг над рэйхстагам! Перамога!"***

Ад пачуццяў, што перапоўнілі душу, вартавому хацелася спяваць, танцаваць, але служба ёсць служба. Ды і недабітыя гітлераўцы шнырыць вакол. Будзь пільным! А тут, якраз па свежапасыпанай рачным пяском алеі, абсаджанай буйнаквітнеючым бэзам, ідзе да штаба камандуючы артылерыяй генерал-лейтэнант Уладзіміраў. У вартавога нарадзілася смелая думка: першаму доўгачаканую вестку паведаміць генералу. Але як гэта зрабіць? Словам перадаць нельга — парушыш строгі статут. Рашэнне з'явілася імгненна: ён сарваў галінку бэзу, утыркнуў яе ў ствол карабіна і крыху далей, чым належыць, адставіў зброю ад нагі (каб звярнуць увагу на неардынарную паставу вартавога). Парушэнне невялікае, але баявы генерал адразу яго заўважыў і ўсё зразумеў. Падышоў да вартавога, не па статуту, па-бацькоўску мякка запытаўся: "Ну што, салдат, Перамога?"

Пасля таго, як змяніўся з паста, Лашкевіч паспрабаваў задрамаць, але сон да ашаломленага радаснай весткай салдата не прыходзіў. Тым больш салаўі за акном, хоць і нямецкія, спявалі так, як і ў Чачэрску, што на Гомельшчыне. Думкі і ўспаміны адразу ж перанеслі хлопца ў родныя мясціны. Успомнілася вялікая, дружная сялянская сям'я, дзяцінства, юнацтва. Здаецца, толькі пачалі жыць па-чалавечы, будавалі планы на будучыню, а тут — вайна, акупацыя. Са сваімі равеснікамі шкодзілі немцам як маглі: клалі дрэвы на чыгунку, падразалі слупы сувязі, нарыхтоўвалі прадукты для партызан. Аднойчы выратавалі яўрэйскую дзяўчыну ад канцлагера. Калі жывая, можа, прыгадае свайго ратаўніка. Праўда, сам ледзь не загінуў з-за гэтага. Маці цудам вырвала яго з лап раз'юшанага фашысцкага аўтаматчыка.

Лета 1943 года прынесла вызваленне насельніцтву Чачэрска, і Адам Лашкевіч запісаўся дабравольцам у 291-ы запасны стралковы полк другога Беларускага фронту. Адразу ж, пад Рагачовым, атрымаў першае баявое хрышчэнне і раненне. Цудам застаўся жывы. Амаль кіламетр з поля бою яго, раненага, цягнуў на насілках-валакушах сабака медыцынскай службы (былі такія, спецыяльна навучаныя сабакі). Магчыма таму Лашкевіч так любіць, беражэ прыроду і жывёльны свет.

Пасля папраўкі Лашкевіч трапіў у вучэбны артдывізіён на курсы малодшых камандзіраў артылерыстаў і сувязістаў. На ўсё жыццё застаўся ў яго памяці бой пад вёскай Самахвалавічы. А гэта было 7 ліпеня 1944 года, калі ў раёне Мачулішчаў знаходзілася ў акружэнні пяцідзесяцітысячная групоўка непрыяцеля. На яе шляху апынуўся і артдывізіён Лашкевіча (120 чалавек). У вёсцы базіравалася яшчэ адна артылерыйская часць, ды па Слуцкай шашы праходзілі розныя тылавыя часці. Сілы былі няроўныя. З жудаснага бою жывымі з артдывізіёна выйшлі толькі 45 чалавек. Фашыстам не далі вырвацца з "катла", тыя сталі здавацца ў палон. Сярод іх кідаліся ў вочы рослыя, сытыя гітлераўцы. Потым стала вядома, што гэта былі адборныя, вымуштраныя грэнадзёры, спецыяльна падрыхтаваныя для параднага маршу ў пераможанай Маскве. Але ўсё атрымалася наадварот. Падчас аперацыі савецкіх войскаў "Багратыён" яны самі апынуліся ў палоне і ішлі потым на другім парадзе, ваеннапалонных, а за імі ехалі мыечныя машыны, якія змывалі бруд з маскоўскіх вуліц.

Пасля Самахвалавічаў ваенныя дарогі павялі далей на Захад: Стоўбцы, Мір, Беласток, Усходняя Прусія, Кёнігсберг, і вось на гарызонце пераможанае фашысцкае логава — Берлін. Там, на сценах рэйхстага, будзе выведзена буйным шрыфтам і прозвішча Лашкевіч. Але гэта крыху пазней. А пакуль жа ідуць баі за Кёнігсберг, дзе па-геройску загінуў сябар Мікалай. Трэба было забяспечыць сувязь камандуючага артылерыяй з перадавой. Сувязіст выканаў загад, але пры гэтым быў смяротна паранены асколкамі шчыльнага загараджальнага гарматнага агню. Нягледзячы на моцны боль, ён дацягнуўся да парванага выбухам проваду і заціснуў намёртва яго канцы зубамі, цаной жыцця забяспечыў сувязь. Наступныя разрывы ўжо ліквідаваў Лашкевіч. За гэты бой ён быў узнагароджаны медалём "За ўзяцце Кёнігсберга". Але гэты горад-крэпасць, а больш дакладна, выпадак вызначыў яго далейшы лёс і выбар прафесіі настаўніка. На падыходах да Кёнігсберга, у асабняку нейкага фон-барона байцы знайшлі на паддашку кучу кніг, а сярод іх на беларускай мове зборнік вершаў маскоўскай паэтэсы Яўгеніі Пфляумбаум, 1938 года выдання. Якім чынам гэтая кніга трапіла ва Усходнюю Прусію, застаецца загадкай. Але цёплыя, шчырыя вершы на роднай беларускай мове, сярод варожага агню ў логаве фашыстаў уразілі ўсіх байцоў. Неабыякавы да літаратуры, паэзіі Лашкевіч быў здзіўлены. Асабліва запалі ў душу вершы "Мая сям'я", сюжэт якіх быў так падобны на лёс Лашкевічаў. Напрыканцы кнігі была прапанова даслаць па зазначаным адрасе свой водгук аб прачытаных вершах.

Малады сяржант употай ад таварышаў накіраваў ліст-трохкутнік у Маскву, не спадзеючыся на адказ. Якое ж было яго здзіўленне, калі па доўгіх, разбітых вайной дарогах прыйшла вестка ад паэтэсы. Паміж імі завязалася перапіска. Неўзабаве баец атрымаў па франтавой пошце і фатаграфію дзяўчыны-паэткі, ледзь старэйшай за яго. З камсамольскім білетам ён насіў фатаграфію ў кішэні каля самага сэрца.

Ужо праз дзесяткі гадоў Лашкевіч прызнаўся, што гэта было яго першае такое паэтычнае і рамантычнае каханне, якое аберагала яго ад смерці ў баях за Радзіму. Праўда, яно не перарасло ў нешта большае, бо паэтэса напісала яму шчыры ліст пасля Перамогі, што, як многія дзяўчаты, яна хацела маральна падтрымаць маладога байца ў цяжкія дні вайны. Адам не крыўдзіцца на паэтэсу. Дзякуючы яе цёплым лістам, ён ячшэ больш верыў у перамогу над ворагам, атрымаў велізарны зарад жадання і энергіі вучыцца, атрымаць вышэйшую адукацыю, стаць настаўнікам.

Пасля Перамогі Лашкевіч яшчэ два гады служыў у арміі і пасля дэмабілізацыі здзейсніў сваю мару, закончыў педагагічную ВНУ і стаў настаўнікам. Ён каля сарака гадоў выкладаў у Чачэрску ў сярэдніх школах № 1 і 2 свае любімыя прадметы: гісторыю, геаграфію, грамадазнаўства. А ветэрану вайны, які прайшоў з баямі ад роднага Чачэрска да самага Берліна, было чым дапоўніць вучэбную праграму. Яго ўрокі не прагульвалі нават самыя нядбайныя вучні. Лашкевіч не абмяжоўваўся толькі вуснымі ўспамінамі, вадзіў сваіх вучняў па мясцінах баявой і працоўнай славы землякоў, вазіў іх у музеі Масквы, Ленінграда, Мінска, у вядомы ўсяму свету піянерскі летнік "Артэк".

Ён сеяў у душах сваіх вучняў толькі карыснае, патрэбнае, добрае, вучыў і даваў веды, дзяліўся з імі сваім жыццёвым вопытам. З яго школы выйшлі вядомыя нам народныя артысткі рэспублікі Валянціна Пархоменка і Людміла Корхава, вучоны-гісторык Анатоль Болсун, журналістка Кацярына Новікава, архітэктар Анатоль Машуцін і многія іншыя. Усіх яго выпускнікоў не пералічыць. І сёння працягвае вопыт работы свайго настаўніка дырэктар Чачэрскай сярэдняй школы №2 Ганна Арлова.

Сёння ветэран вайны і працы Адам Уладзіміравіч Лашкевіч, кавалер многіх баявых і працоўных урадавых узнагарод, жыве ў Гомелі. Адбіваюцца на здароўі баявыя раненні, доўгія вёрсты актыўна пражытага жыцця, узрост, але, неабыякавы да ўсяго навакольнага, ён не сядзіць склаўшы рукі. Неспакойнага, энергічнага ветэрана можна часта бачыць на сустрэчах з вучнямі школ і навучальных устаноў Савецкага раёна абласнога цэнтра, у працоўных калектывах, з супрацоўнікамі гомельскага гарнізона міліцыі і воінамі арміі. Зрэдку ён выязджае на сустрэчы са сваімі аднапалчанамі ў Мінск і Маскву. У кнізе аб героях Беларусі "Памяць" ёсць і яго ўспаміны баявой мінуўшчыны сваіх землякоў і таварышаў. Уся энергія, вопыт і прафесійныя веды настаўніка-ветэрана накіраваны на патрыятычнае выхаванне маладога пакалення. А сённяшняй моладзі ёсць з каго браць прыклад.

**Міхаіл ДЗЕДАВЕЦ.**

Фотахроніка Перамогі

НА ЗДЫМКАХ: Сцяг Перамогі над рэйхстагам; Героі Савецкага Саюза Мелітон Кантарыя (злева) і Міхаіл Ягораў каля Сцяга Перамогі, які яны ўзнялі 30 красавіка 1945 года над рэйхстагам і Акт аб безагаворачнай капітуляцыі фашысцкай Германіі падпісвае прадстаўнік савецкага Вярхоўнага Галоўнакамандавання Маршал Савецкага Саюза Г.К.Жукаў.

**Фота з дасье БЕЛТА.**

Маленькі франтавы эпізод

# Апошняя ўсмешка

***Шляхоў да Перамогі было мноства і, вядома, самых розных, але заўсёды цяжкіх. палітых потам і крывёю, адзначаных стратамі сяброў-таварышаў. Гэтымі шляхамі ішлі салдаты па веснавым бездарожжы, у зімнія сцюжы і ў спякоту летам, ішлі, адваёўваючы гарады і безымянныя вышыні, лясы і водныя рубяжы — ішлі наперад, бо быў адзін напрамак, была адна мэта — Перамога!.. Перамога для ўсіх і кожнага...***

Лета 1944 года было гарачым. Вядомая аперацыя пад назвай "Баграціён" пасляхова завяршылася: нямецка-фашысцкія войскі былі разгромлены, рэшткі пасля знакамітых "катлоў" выгнаны, а Беларусь вызвалена...

Наш стралковы полк у саставе 96-й стралковай Гомельскай Чырванасцяжнай дывізіі ўступіў на тэрыторыю Польшчы і дасягнуў ракі Нараў. Як звычайна, акапаліся, стварылі глыбока эшаланіраваную абарону (бо вораг яшчэ агрызаўся), адпачывалі. Але неўзабаве пачалі хутка папаўняцца: значыць, новае наступленне не за гарамі. Такое ўжо было, калі перапраўляліся цераз Сож і Дняпро, Бярэзіну і Шчару, Нёман і Рось. Быў вопыт, але цяжкасці не змяншаліся.

Рака — рубеж, перашкода, якую трэба пераадолець... Думай, салдат-пехацінец, думай, сувязіст, як пераправіцца. Ды яшчэ ўстанавіць сувязь з таго берага. І думалі, рыхтаваліся. Але што б ні рабілі, аб чым ні размаўлялі, ведалі — Нараў наперадзе! Правялі дзве разведкі боем: першую — каб выявіць праціўніка на ўсёй лініі фронту, другую мясцовую.

Чакае і наша пяцёрка сувязістаў у поўным баявым на НП камандзіра палка. Прыслухоўваемся, а навокал — цішыня, якая на перадавой заўсёды небяспечная. На гадзінніку — поўнач. Грыміць злева, грыміць справа, вакол безупынная кананада, зліваецца ў адзін гул мноства стрэлаў і разрываў. Час ад часу ўспыхваюць ракеты. З радыстам Ганчаровым выйшлі з бліндажа ў траншэю, глядзім праз бруствер у бок праціўніка... Раптам там узнялася ракета, асляпіла і, апісаўшы дугу, упала агаркам ля нас...

— Бачыў той бераг? — пытае Ганчароў шэптам.

— Бачыў... круты, высокі — Нараў блішчаў, бы змей...

— А як з плаваннем?

— ...

Маё маўчанне ён зразумеў і падаў свой выратавальны пояс, маўляў, мы — валжане, а табе, магчыма, спатрэбіцца. Ганчароў для мяне самы блізкі чалавек як салдат, а яшчэ ён поўны цёзка майго дзеда па лініі маці — Дзяніс Васільевіч Ганчароў. За мяне старэйшы, кадравы, у армію трапіў па прызыве ў канцы трыццатых, вясной сорак першага рыхтаваўся вярнуцца да сям'і — жонкі, артысткі драмтэатра сталіцы, і дзвюх дачушак-школьніц. Ён жа і дэкаратар сцэны тэатра, таленавіты мастак. Кожны з сувязістаў роты меў свой партрэт: іх адсылалі яны дамоў — фота ж не было. Жартам я называў яго "дзядулем" — не крыўдзіўся... Дай Бог, каб чутае збылося...

Раптам Ганчароў моцна сціснуў мне локаць: "Штрафнікі..."

Паблізу ад нас у напрамку да берага ракі зданямі мільгалі постаці салдат.

— Цяпер чакай сігналу...

На гадзінніку была лічба "4"...

Калі б мяне спыталі зараз, як мы, пяцёра сувязістаў, апынуліся на другім беразе, я б адказаць не змог... Памятаю, што спачатку пагрузіліся ў лодку-пласкадонку, якая стаяла ля балотнай завадзі, праплылі некалькі метраў, а яна пачала хутка напаўняцца вадой, потым пайшла на дно — якога дастаў адзіны Ганчароў... Муса бултыхаўся, затым паплыў да берага. Побач быў Клімаў. Са мной жа тварылася нешта незразумелае: танулі ногі, галава, бо на шыі быў аўтамат, а ў руках — катушка трафейнага кабелю...

— Трымайся за мяне, — прашаптаў Ганчароў і вывалак Клімава і мяне да берага. І толькі цяпер я ўспомніў пра пояс — тут ужо быў і Дзеравянка. Апошні са здзіўленем прамовіў:

— Глядзі — жывыя...

А далей пачалося тое, што толькі здзіўляла: на тым беразе гучалі кароткія аўтаматныя чэргі, лопаліся з трэскам ручныя гранаты — ішоў рукапашны бой у траншэях. Значыць, нашы скарысталі і час, і раптоўнасць нападу, бо на начны бой праціўнік, пэўна, не разлічваў... Вораг апамятаваўся і пачаў біць па нашым беразе, па рацэ, але роты салдат пераправіліся ўжо... Мы таксама, хоць і пад абстрэлам, праскочылі, навялі дзве ніткі сувязі і ўкрыліся пад кручай берага. З вялікім хваляваннем падключаю апарат — ужо з таго берага чую голас Зіны. "Жывы?" — усклікнула яна, і зашчабяталі Каця з Валянцінай... Да апарата падышоў камроты: я далажыў, што заданне ўстанавіць сувязь для кампалка выканалі. У адказ пачуў: "Малайцы!.."

Сувязь мы наладзілі, а потым, распрануўшыся (быў кастрычнік), пачалі выкручваць шынялі, адзенне. Раптам сувязь перарвалася... Муса без вопраткі, накінуўшы шынель, схапіў апарат — і на лінію, але яго прыпыніў Ганчароў: "Парыў тут, побач", — і пабег па нітцы да месца, дзе быў пантон. Сувязь аднавілася. Чакаем Ганчарова, але з цемры выйшаў незнаёмы, як высвятлілася, паранены з той роты, што першай пераправілася:

— Там вашага накрыла...

Мы ўсхапіліся, імгненна апранулі яшчэ мокрае адзенне, пабеглі, трымаючы нітку кабелю... Цемру прашывалі трасіруючыя кулі, вішчалі над галавой снарады, а мы беглі... Пры святле ўзляцеўшай ракеты адразу заўважылі Ганчарова: так ляжаць мог толькі ўжо нежывы чалавек — бязбоязна накіраваны да неба твар, наводмаш раскінутыя рукі... Учатырох падхапілі пазбаўленае жыцця цела, панеслі пад круты бераг. Клімаў стаў аглядаць: правы бок вышэй локця быў разварочаны, з раны сачылася кроў, яшчэ цёплая... Прыклаў я руку да грудзей — сэрца трапятала...

— Жывы! — прашаптаў я і чамусьці глянуў на гадзіннік — восем раніцы — цэлыя чатыры гадзіны прайшло з пачатку гэтага начнога бою... Незаўважаным падышоў кампалка, падпалкоўнік Фёдараў...

— Хто? — запытаў ён.

— Радыст Ганчароў, — адказаў Клімаў.

— Божа Усявышні! — у роспачы, па-жаночаму прамовіў ён. — Зараз жа адшукаць санітараў! — ужо загадаў свайму ардынарцу і схіліўся над апаратам: з-за Наравы адказаў начштаба маёр Марчанка...

Пачынаўся світанак... Праз абрыўкі хмар праглядвала сонца... Бой аддаліўся, адчувалася, што ён ідзе ў другім эшалоне варожых траншэй: зноў чуліся кароткія чэргі, лопаліся гранаты-лімонкі...

А побач паміраў наш таварыш, з якім мы прайшлі праз усю Беларусь, якога мы ўсе паважалі, любілі... Паміраў сын той настаўніцы, што жыла ў Падмаскоўі, пакідаў жыццё бацька тых двайнятак-школьніц, што вучыліся ў Казані, беспрытомным развітваўся з гэтым светам любімы муж той актрысы эвакуіраванага маскоўскага тэатра, што рэпеціравала або іграла ролю закаханай...

— Прыўзнімі яму галаву, — прашаптаў Клімаў.

Я апусціўся, паклаў яго галаву сабе на калені... Раптам са шчарбіны вяршынь парадзеўшага за час бою лесу прабіўся промень сонца, дакрануўся да памярцвелага твару Ганчарова — вочы яго расплюшчыліся... Дзяніс павёў позіркам на Клімава, потым на мяне, і нешта падобнае на ўсмешку ўзнікла на яго вуснах.

— Жывы! — ужо не прашаптаў, а ўскрыкнуў я...

Вусны Дзяніса варухнуліся яшчэ больш у той скупой, мілай усмешцы, якая можа быць толькі ў добрых і разумных людзей. І ён нават паспрабаваў нешта прамовіць, але толькі штосьці прахрыпела ў яго грудзях, потым ён нібы пацягнуўся і абмяк — стаў цяжэйшым...

— Каюк, — першым адазваўся татарын Муса. — А-а, хрыц, шайтан!.. — затым пачаў сыпаць руска-татарскія праклёны.

Мы, прыгнечаныя смерцю Ганчарова, маўчалі, адчуваючы перад ім пачуццё віны: гэта ён ратаваў нас двойчы за гэту ноч — першы раз, калі тапіліся ў рацэ, і цяпер, калі мы выкручвалі адзенне, а ён пабег на лінію...

Клімаў беражліва ўзняў галаву Дзяніса з маіх ног, таксама асцярожна паклаў на згорнуты ў скрутак шынель. Галава яго цяпер узвышалася — ён глядзеў шырока адкрытымі вачыма ў нікуды. Я працягнуў руку, каб іх прыкрыць, як нечакана прыкмеціў у куточку вока буйную слязу, але яна яшчэ расла і скацілася па запалай шчацэ пад каўнер як апошняе пасланне ад памёршага... А ўсмешка з твару ўсё не знікала...

У чаканні загаду кампалка, куды даваць сувязь, мы, аглохшыя, неадрыўна глядзелі на нашага таварыша — нас хвалявала яго ўсмешка. Што яна азначала і чым была выклікана?

— Гэта ён ад радасці, — агарошыў нас навічок Дзеравянка, — што адышоў ад гэтага пекла...

— Маскву ўспомніў, Казань, — скрозь слёзы прамовіў Муса...

— Не, — рашуча сказаў сяржант Клімаў, старэйшы сярод нас, — гэта ён уявіў нашу Перамогу, убачыў той дзень, калі яна прыйдзе, і паслаў прывітанне нам, яшчэ жывым...

Мне ж здавалася, што гэта ўсмешка была апошнім успамінам аб роднай маці, аб тых дзяўчынках-двайнятках, аб каханай жанчыне...

Санітары так і не з'явіліся: напэўна, яны пайшлі з тымі, хто быў на пярэднім краі, а вось пасланец ад кампалка ардынарац Зорын перадаў загад весці далей нашу лінію... Хутка зняліся, паведаміўшы камроты аб здарэнні... Перад развітаннем зноў на імгненне сталі каля свайго любімага сябра:

— Даруй нам, — за ўсіх папрасіў прабачэння сяржант Клімаў і дадаў:

— Святым ты быў чалавекам, і пухам няхай табе будзе гэта славянская зямля... Вечны спакой табе...

Смерць сяржанта Ганчарова на нейкі час аглушыла і асляпіла нас, пазбавіла пачуцця рэальнага... А бой працягваўся. Па-ранейшаму грымела кананада, ад якой дрыжэла, стагнала і корчылася ў сутаргах зямля, пахла гарам ад тлеючых толавых шашак, ад мін і снарадаў, што разрываліся побач, — гэты ядавіты гар сляпіў вочы, засланяў святло ўзыходзячага сонца. Вакол стаяла шэрая заслона туману, што гусцеў там, дзе працягваўся бой... І па-ранейшаму цераз пантоны пераходзілі патокі людзей, цягнулі артылерыю, пераводзілі ашалелых ад страху коней — некаторыя падалі ў раку і самі плылі да берага; усё рухалася, бегла, падала, паўзло, крычала — працягвала ўдзельнічаць у лютай, страшэннай схватцы дзвюх варожых сіл, схватцы ў імя жыцця, у імя будучыні...

Але гэта быў ужо бой на новым беразе, беразе нашым. Нараў быў ззаду. Яго цячэнне несла свае воды, ён быў толькі адной з перашкод на шляху да нашай перамогі, адкуль пачаліся баі на знакамітых Нараўскім і Пултускім плацдармах, на якіх пачыналіся баі за Польшчу і Усходнюю Прусію...

Мой успамін — часцінка падзей таго часу. Больш чым паўвека прайшло з таго ваеннага ліхалецця, але ўсё да самых дробязяў — у памяці. І калі пісаў гэты ўспамін, нібы зноў сустрэўся з тымі, хто быў побач, быццам пагутарыў з імі, пачуў іх галасы, убачыў усмешкі... Многія з іх ужо пайшлі з жыцця. І хто ведае, магчыма, яны пакідалі нас з такой усмешкай, як і салдат Ганчароў, чыя ўсмешка была апошнім асэнсаваным прывітаннем — прывітаннем са слязой...

Кажуць, калі нараджаецца немаўлятка, яно плача, калі ж памірае, то ўсміхаецца. З мілай, чыстай усмешкай памёр салдат на полі бою, бо добрым быў, па-дзіцячаму шчырым да людзей... Вечная яму памяць...

**Уладзімір КАРАЛЬКОЎ, інвалід Вялікай Айчыннай вайны, настаўнік-пенсіянер.**

У Міністэрстве адукацыі

# Падзяка за плённую працу

**3 мая 2001 г. міністр адукацыі В.І.Стражаў падпісаў загад аб узнагароджанні шэрагу работнікаў сістэмы адукацыі, у якім гаворыцца:**

1. За арганізацыю і правядзенне эксперыментальнай работы па апрабацыі абноўленага зместу ў агульнаадукацыйнай школе аб'явіць падзяку з выдачай аднаразовай грашовай прэміі ў памеры дзвюх мінімальных заработных плат кожнаму з наступных работнікаў эксперыментальных школ Рэспублікі Беларусь:

Васілю Іванавічу Герасімчыку, загадчыку аддзела адукацыі Смалявіцкага райвыканкама;

Яўгену Тадэвушавічу Горыду, загадчыку аддзела адукацыі Жодзінскага гарвыканкама;

Аляксандру Аляксандравічу Цітовічу, загадчыку аддзела адукацыі Шаркоўшчынскага райвыканкама;

Святлане Васільеўне Цыганковай, загадчыку аддзела адукацыі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Гродна;

Яраславу Аляксандравічу Клачковічу, дырэктару Арэхаўскай сярэдняй школы Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці;

Міхаілу Іванавічу Сапацькову, дырэктару Гадзілавіцкай сярэдняй школы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці;

Ніне Уладзіміраўне Фурс, дырэктару сярэдняй школы № 24 Гродна;

Зоі Георгіеўне Шыбко, дырэктару сярэдняй школы № 196 Мінска;

Таццяне Сямёнаўне Абрамавай, намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 29 Віцебска;

Ганне Усцінаўне Ластаўка, намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Лужкоўскай сярэдняй школы Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці;

Галіне Яўгенаўне Максімавай, намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 39 Магілёва;

Антаніне Дзмітрыеўне Паўлюшынай, намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 44 Гомеля;

Таццяне Францаўне Піманёнак, намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Галіне Данілаўне Рассафонавай, настаўніку рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 26 Брэста;

Аляксандру Ільічу Кебецу, настаўніку геаграфіі сярэдняй школы № 26 Брэста;

Галіне Васільеўне Трубчык, настаўніку беларускай мовы і літаратуры Арэхаўскай сярэдняй школы Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці;

Таццяне Сцяпанаўне Камарчук, настаўніку матэматыкі Арэхаўскай сярэдняй школы Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці;

Святлане Станіславаўне Барысік, настаўніку беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 24 Гродна;

Галіне Паўлаўне Дзёмінай, настаўніку рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 24 Гродна;

Наталлі Уладзіміраўне Нячаевай, настаўніку гісторыі сярэдняй школы № 24 Гродна;

Анатолію Андрэевічу Ліпінскаму, настаўніку тэхналогіі (м) сярэдняй школы № 24 Гродна;

Веры Аляксандраўне Шышкінай, настаўніку тэхналогіі (м) сярэдняй школы № 24 Гродна;

Таццяне Сяргееўне Семянчук, настаўніку выяўленчага мастацтва Краснасельскай сярэдняй школы Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці;

Алене Валер'еўне Волкавай, настаўніку беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Ірыне Адамаўне Белаш, настаўніку рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Наталлі Уладзіміраўне Залатарэўскай, настаўніку матэматыкі сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Любові Аляксандраўне Крупенькінай, настаўніку біялогіі сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Валянціне Міхайлаўне Курмацёвай, настаўніку гісторыі сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Канстанціну Уладзіміравічу Кугату, настаўніку фізічнай культуры сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Зоі Андрэеўне Багдановіч, настаўніку тэхналогіі сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Валянціне Васільеўне Койда, настаўніку геаграфіі сярэдняй школы № 29 Гомеля;

Аідзе Емяльянаўне Твардоўскай, настаўніку фізікі сярэдняй школы № 44 Гомеля;

Інесе Канстанцінаўне Абрамчук, настаўніку гісторыі сярэдняй школы № 44 Гомеля;

Людміле Ільінічне Дэй, настаўніку тэхналогіі сярэдняй школы № 44 Гомеля;

Надзеі Фёдараўне Крывой, настаўніку музыкі Красненскай сярэдняй школы Гомельскага раёна Гомельскай вобласці;

Людміле Сцяпанаўне Садоўскай, настаўніку беларускай мовы і літаратуры Лужкоўскай сярэдняй школы Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці;

Алене Генрыхаўне Арэхавай, настаўніку матэматыкі Лужкоўскай сярэдняй школы Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці;

Тамары Рыгораўне Гамановіч, настаўніку гісторыі і геаграфіі Лужкоўскай сярэдняй школы Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці;

Элеаноры Уладзіміраўне Вакар, настаўніку беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 29 Віцебска;

Таццяне Сямёнаўне Абрамавай, настаўніку рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 29 Віцебска;

Ірыне Генадзьеўне Бядарык, настаўніку біялогіі сярэдняй школы № 29 Віцебска;

Святлане Эдуардаўне Сайкоўскай, настаўніку музыкі сярэдняй школы № 29 Віцебска;

Інзе Валер'еўне Вялікаіваненка, настаўніку матэматыкі Радашковіцкай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці;

Іне Леанідаўне Ткачэнка, настаўніку матэматыкі Радашковіцкай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці;

Алене Станіславаўне Ісідовіч, настаўніку гісторыі Радашковіцкай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці;

Святлане Уладзіміраўне Жылянінай, настаўніку беларускай мовы і літаратуры Барсукоўскай сярэдняй школы Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці;

Ірыне Дзмітрыеўне Яцко, настаўніку геаграфіі Барсукоўскай сярэдняй школы Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці;

Валянціне Сяргееўне Дроб, настаўніку тэхналогіі Барсукоўскай сярэдняй школы Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці;

Святлане Анатольеўне Шлыкавай, настаўніку рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 39 Магілёва;

Алене Аляксандраўне Царовай, настаўніку матэматыкі сярэдняй школы № 39 Магілёва;

Ніне Іванаўне Альхоўскай, настаўніку тэхналогіі сярэдняй школы № 39 Магілёва;

Галіне Станіславаўне Грыцук, настаўніку фізікі сярэдняй школы № 5 Жодзіна;

Тамары Паўлаўне Канавальчык, настаўніку біялогіі сярэдняй школы № 5 Жодзіна;

Ларысе Уладзіміраўне Сямашка, настаўніку геаграфіі сярэдняй школы № 5 Жодзіна;

Уладзіміру Сцяпанавічу Касцяневічу, настаўніку тэхналогіі сярэдняй школы № 5 Жодзіна;

Наталлі Эдуардаўне Бажанавай, настаўніку рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 196 Мінска;

Галіне Фёдараўне Багдановіч, настаўніку выяўленчага мастацтва сярэдняй школы № 196 Мінска;

Аліне Васільеўне Баранавай, настаўніку беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 166 Мінска;

Наталлі Львоўне Зуевай, нстаўніку выяўленчага мастацтва сярэдняй школы № 166 Мінска;

Ніне Уладзіміраўне Усевіч, настаўніку рускай мовы і літаратуры Гадзілавіцкай сярэдняй школы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці;

Марыі Мікалаеўне Казловай, настаўніку англійскай мовы Гадзілавіцкай сярэдняй школы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці;

2. Выплату грашовай прэміі правесці ў межах сродкаў, прадугледжаных на прэміраванне работнікаў устаноў.

Конкурс "Настаўнік года–2001"

# Зазіхацелі новыя зорачкі

***Завершана праграма фіналу Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства педагогаў "Крыштальны журавель 2001". Аб'яўлены вынікі. І сёння мы ўжо ведаем, хто ўвайшоў у шасцёрку суперфіналістаў.***

* * *

Хто ж яны шчаслівчыкі, тыя, каму пашанцавала набраць большую колькасць балаў. Гэтае пытанне літаральна лунала ў паветры актавай залы сярэдняй школы № 53 сталіцы, дзе праходзіла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання фіналістаў. Сцэнарый быў прадуманы такім чынам, што да апошняга моманту ніхто нічога не ведаў, акрамя, вядома, журы. Непадступнае, яно цвёрда захоўвала прафесійную "тайну". І гэтая паўза была вельмі патрэбнай для таго, каб прысутныя ў зале, і ў першую чаргу віноўнікі ўрачыстасці, канкурсанты, пасля перажытых цяжкіх конкурсных дзён, ці, як вобразна заўважыў вядучы Святаслаў Генадзьевіч Крупенька, пасля конкурснага марафона, прыйшлі ў сябе", супакоіліся, уздыхнулі з палёгкай, адпачылі і "ўсвядомілі, якую важную і вельмі патрэбную справу яны зрабілі для гісторыі нацыянальнай адукацыі. Усё перажыта, набыты пэўны вопыт. Наперадзе іх чакала самае прыемнае: словы падзякі, узнагароды і падарункі.

— Мы неверагодна рады ўсіх вас сёння бачыць жыццярадаснымі і здаровымі. Мы разумеем вашы хваляванні і патрыятычныя пачуцці кожнага за свой горад, рэгіён, вобласць, — сказаў намеснік міністра адукацыі Генадзь Дзям'янавіч Дылян, віншуючы настаўнікаў з заканчэннем фінальнага этапа конкурсу. — Аднак, няхай і скажу банальна, але ў дадзеным выпадку галоўнае — прыняць удзел. Мы рады, што на небасхіле нацыянальнай адукацыі і педагогікі зазіхацелі новыя дваццаць дзве зорачкі. Вы ўсе валодаеце высокімі прафесійнымі якасцямі. Дзякуй вам за ўдзел у конкурсе!

— Гэта была толькі прыказка, — нагадаю інтрыгуючыя словы старшыні арганізацыйнага камітэта конкурсу Алега Ігнатавіча Таўгеня, — казка — наперадзе.

Гучыць фанаграма конкурсу. Дзяўчынка-старшакласніца ўносіць у залу прыгожы яго сімвал — крыштальны журавель. Гэтую узнагароду, аўтар якой народны майстар-умелец з Барысаўскага раёна Леанід Рыгоравіч Шутко, атрымае пераможца суперфіналу. А ў той урачысты момант усім фіналістам, якіх запрасілі да сцэны, была ўручана копія-мініяцюра галоўнай узнагароды — маленькае жураўлянятка.

А пасля ўручаліся падарункі. Ад Міністэрства адукацыі і арганізацыйнага камітэта кожны канкурсант атрымаў касметычныя наборы беларускіх фірм-вытворцаў, а таксама памятныя прызы-сувеніры — крыштальныя вырабы. Ад мінскага гадзіннікавага завода "Прамень" — наручныя гадзіннікі.

— Пэўна, некаторым з вас яшчэ доўга будуць сніцца вашы конкурсныя ўрокі, — сказала старшыня журы, прафесар кафедры прыкладной матэматыкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка Ірына Аляксандраўна Новік. — Вы бліскуча вытрымалі іспыт на прафесіяналізм. Вашы ўрокі стануць нагляднымі дапаможнікамі для настаўнікаў краіны. Я яшчэ раз пераканалася, як памыляюцца тыя, хто сцвярджае, што ў небагатай краіне нельга выхаваць высока духоўную асобу. Вы даказалі сваёй працай, што гэта магчыма.

Па самых сціплых падліках, журы прыйшлося праглядзець каля сямідзесяці ўрокаў. Нагадаю, што канкурсанты павінны былі даць два ўрокі ў незнаёмым класе, прадставіць план-канспект і відэазапіс першага конкурснага ўрока. Толькі па прадмеце "Геаграфія" журы, напрыклад, прагледзела дваццаць адзін урок. Кожнаму члену журы, жартавалі вядучыя, можна ўжо сёння прысвоіць кваліфікацыю "географ".

Урокі канкурсантаў акрамя журы ацэньвалі яшчэ і вучні. Для сапраўднага настаўніка "чужых" дзяцей не бывае. І ўдзельнікі конкурсу гэта прадэманстравалі. Яны імгненна ўсталёўвалі з класам цёплыя і даверлівыя адносіны, атрымоўваючы ў адказ разуменне і жаданне працаваць з аддачай і адказнасцю за вынік. Кожны ўрок — гэта быў пошук ісціны. Пасля іх вучні гаварылі: "Здорава! Вось бы ўсе ўрокі былі такімі".

Па ўмовах конкурсу журналісты на ўроках не мелі права прысутнічаць. Падрабязны аналіз іх зробяць члены журы, вопытныя выкладчыкі-метадысты ў бліжэйшых нумарах нашай газеты.

На ўрачыстасці прагучалі словы падзякі ў адрас усіх тых людзей, "байцоў нябачнага фронту", якія арганізоўвалі конкурс і яго абслугоўвалі, стварылі для канкурсантаў такія ўмовы, каб яны змаглі найбольш поўна рэалізаваць свой творчы патэнцыял.

— Мы будзем звяртацца ў аргкамітэт з прапановай, — заўважыла старшыня журы перад тым, як назваць прозвішчы настаўнікаў, якія ўвайшлі ў шасцёрку суперфіналістаў, каб у будучым журы вылучала ў суперфінал не шэсць чалавек, а дзесяць. Гэта значна палегчыла б нашу задачу. Справа ў тым, што за гэтай шасцёркай блізенька-блізенька, адстаючы літаральна на сотыя долі бала, ідуць наступныя канкурсанты. І цалкам магчыма, што нехта з іх у суперфінале меў шанц стаць першым, а мы яго пазбавілі такой магчымасці...

Вось наколькі прафесійна моцнымі былі канкурсанты і якая жорсткая барацьба ішла паміж імі.

Коратка, літаральна некалькі слоў пра кожнага з іх.

— Я думала, што данесла свой крыж да канца, — усхваляваная гаварыла са сцэны ў той урачысты момант Галіна Пятроўна Дрокіна, настаўніца геаграфіі Маладзечанскай беларускай гімназіі, — аднак не... трэба ісці далей...

Мне добра запомнілася гэтая дзіўная жанчына на самапрадстаўленні. Яна прымусіла заспяваць усю залу. Яшчэ тады са сцэны яна прызналася, што вельмі любіць сваю Радзіму. І пераканана ў тым, што калі ў нас будзе добры настаўнік, то Беларусь будзе жыць...

Калі ў вучняў, якім пашанцавала працаваць на конкурсным уроку геаграфіі настаўніка Ланскай сярэдняй школы Вадзіма Паўлавіча Шпетнага, спыталі, што вам спадабалася на ўроку, яны адказалі: "Настаўнік". Гэты настаўнік самаахвярна закаханы ў свой прадмет — геаграфію, займаецца навукова-даследчай дзейнасцю, ён — аспірант БДПУ імя М.Танка па спецыяльнасці "Методыка выкладання геаграфіі", аўтар шэрагу праграм для класаў з паглыбленым вывучэннем геаграфіі і факультатыўных курсаў. Вадзім Паўлавіч выкарыстоўвае інавацыйны вопыт у галіне методыкі выкладання, удала спалучаючы яго з традыцыйнымі падыходамі. Яго ўрокі эмацыянальныя і будуюцца на аснове супрацоўніцтва. Аб высокім узроўні тэарэтычнай падрыхтоўкі настаўніка сведчаць дыпломы лаўрэата усеагульнай завочнай алімпіды па геграфіі, якая праводзіцца пад эгідай газеты "Геаграфія" (Расія). Вось такі ён, прадстаўнік Брэстчыны.

— Мы робім стаўку на настаўніка, сфарміраванага ў 80-я і 90-я гады, пазбаўленага грузу памылак мінулага, — сказала, прадстаўляючы на конкурсе сваю каманду з Гродзеншчыны намеснік начальніка аддзела агульнай сярэдняй адукацыі упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Алена Дзееўна Гарачава. Дарэчы, тады яна нагадала прозвішчы пераможцаў мінулагодніх конкурсаў — Кухарэнкі і Чэка, — якіх ужо, на жаль, няма з намі.

І, напэўна, гродзенцы не памыліліся, што робяць стаўку на такіх, як Алег Леанідавіч Леановіч, настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 2 Слоніма, выхаванцам якой некалі быў сам. Настаўнік у другім пакаленні лічыць сябе нашчадкам Скарыны і Ключэўскага. Любіць і добра ведае свой прадмет. У сваіх вучняў выхоўвае пачуццё павагі да гістарычнага мінулага, вучыць іх аналізаваць гістарычныя факты і з'явы, фарміраваць уласны пункт гледжання на тую ці іншую гістарычную падзею.

Працуючы з курсам гісторыі Беларусі, Алег Леанідавіч будуе шэраг урокаў на краязнаўчым матэрыяле. Каманда "Слонімскія князёўны" пад яго кіраўніцтвам паспяхова прыняла ўдзел у абласным конкурсе "Галасы гісторыі". Настаўнік пабуджае вучняў да творчай і даследчай працы.

Вольга Іванаўна Лугоўская, дэфектолаг Кадзінскай сярэдняй школы Магілёўскага раёна, запомнілася мне на самапрадстаўленні разам з ужо дарослымі дачкой і сынам. Родныя дзеці прадстаўлялі матулю-працаўніцу. Пра вопыт работы гэтай настаўніцы мы вам абавязкова раскажам падрабязней пазней, ён таго заслугоўвае. Як, пэўна, таго заслугоўвае кожны з дваццаці двух канкурсантаў.

Алена Аляксандраўна Падрубная, настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 10 Гомеля, — аўтар падручніка па сваім прадмеце. Складнікі яе поспеху — творчасць і супрацоўніцтва. Яна ўмее заўважыць і падтрымаць поспех вучня, умее працаваць з адоранымі вучнямі.

На ўроках дэмакрат, а ў спрэчках і дыскусіях Сакрат" — так лаканічна-ёмка прадставілі калегі Дзмітрыя Мікалаевіча Чарапко, настаўніка матэматыкі політэхнічнай гімназіі № 6 Мінска. Ён будзе прадстаўляць у суперфінале сталіцу краіны — такі гонар выпаў гэтаму маладому і таленавітаму настаўніку. Спецыялісты лічаць, што яго вопыт заслугоўвае ўвагі і вывучэння і можа быць выкарыстаны не толькі выкладчыкамі матэматыкі, але і кіраўнікамі метадычных кафедраў навучальных устаноў новага тыпу, а таксама кіраўнікамі навуковых работ вучняў.

Такім чынам, у суперфінале будуць спаборнічаць:

**Галіна Пятроўна Дрокіна**, настаўніца геаграфіі Маладзечанскай беларускай гімназіі;

**Вольга Іванаўна Лугоўская**, дэфектолаг Кадзінскай сярэдняй школы Магілёўскага раёна;

**Алег Леанідавіч Леановіч**, настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 2 Слоніма Гродзенскай вобласці;

**Алена Аляксандраўна Падрубная**, настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 10 Гомеля;

**Вадзім Паўлавіч Шпетны**, настаўнік геаграфіі Ланскай сярэдняй школы Маларыцкага раёна;

**Дзмітрый Мікалаевіч Чарапко**, настаўнік матэматыкі політэхнічнай гімназіі № 6 Мінска.

Віншуем іх з перамогай!

**Святлана БЕНЬ.**

Яны змагаліся за Радзіму

# Крынічная вада

***На жыццёвым шляху кожнага з нас сустракаюцца людзі, памяць пра якіх доўга захоўваецца ў душы і грэе яе.***

***Сярод блізкіх і знаёмых для мяне такім чалавекам з'яўляецца Мікалай Паўлавіч Гулевіч, які доўгія гады працаваў у Брэсце, загадваў абласным аддзелам народнай асветы. Майстар імправізаванай гутаркі, поўнай жыццёвай філасофіі і гумару, ён мне запомніўся з першых нашых сустрэч, а асобныя яго выказванні сугучныя маім думкам. Хаця б такое: "Дапамагчы добраму чалавеку, калі можаш, — гэта шчасце!"***

Пасля я не раз лавіў сябе на думцы, што ў Мікалая Гулевіча ўсё свядомае жыццё пабудавана па прынцыпе: дапамагчы! Дапамагчы чалавеку, дапамагчы людзям, якія трапілі ў бяду, дапамагчы Радзіме ў цяжкую гадзіну.

Мяркуйце самі. На долю Мікалая выпала дзве вайны. Вялікая Айчынная і Афган. Вайну з гітлераўцамі шаснаццацігадовы юнак сустрэў у сваёй вёсцы Рудня Нісімкавіцкая, што на Гомельшчыне. Ён толькі што вярнуўся з-пад Курска, куды з падлеткамі, такімі ж як сам, ганяў калгасную жывёлу: кароў, авечак, свіней.

Нагараваўшыся ў пыльнай і цяжкой дарозе, яму хацелася крыху адпачыць, пахадзіць з вудай каля ракі Пакаць, што прабягае пасярод вёскі, але, з прыходам немцаў, абставіны крута змянілі звыклы ўклад жыцця.

Успамінаючы той час. Мікалай Паўлавіч гаворыць:

— Наша сям'я — шэсць чалавек. Старэйшы брат Аляксандр быў прызваны на вайну з першых яе дзён. Ён загінуў на польскай зямлі, калі ўжо вызвалялі нас ад акупантаў. Яго пісьмы з фронту захоўваюцца ў мяне і сёння. Бацьку нашага, майстра на ўсе рукі, Паўла Цімафеевіча, немцы забілі ў вёсцы. І на мяне ў выніку ляглі ўсе адказныя клопаты. Гэта работы ў полі і на лузе, усё тое, без чаго ў вёсцы не пражыць. Добра, што я ў свой час таму-сяму навучыўся ў бацькі. Выраблеў і колы, якія вывозіў на продаж.

Многа ўсялякіх жахаў давялося перажыць юнаку Гулевічу ў час вайны. Больш за ўсё ён баяўся адпраўкі ў Германію, не раз падвяргаў сябе выключнаму пакаранню за ўхіленне ад збораў такога роду, тым не менш дачакаўся прыходу савецкіх войскаў. І адразу ж, у верасні сорак трэцяга, быў мабілізаваны ў армію. Прайшоў кароткачасовую падрыхтоўку і тут жа, пад Гомелем, быў кінуты ў бой. Бітвы з ворагам каля Дняпра і Сожа вяліся жорсткія.

— За вёску Шарсцін каля ракі Сож, — расказвае Мікалай Паўлавіч, — мы дваццаць дзён хадзілі ў атаку. — Немцы тут падрыхтавалі моцную абарону, яны знаходзіліся на ўзвышшы, ім усё было бачна як на далоні. Іх снайперы знішчалі нашых камандзіраў. І калі тыя, нашы ўзводныя і ротныя, у чарговы раз казалі, што сёння вёска Шарсцін будзе вызвалена, я ў іх вачах бачыў адчай і невыразны боль. Гэта ніколі не забудзецца. Такое адчуванне моцна біла па сэрцы. А стрэлы чалавечых жыццяў? Стралковы батальён у сто дваццаць байцоў пасля атакі губляў дзве трэціх свайго складу. І так кожныя суткі: уначы папаўненне навабранцамі, у асноўным моладдзю, а ўдзень зноў вялікія страты.

Змагаючыся, лічы, ля парога сваёй хаты, Мікалай Гулевіч якімсьці цудам заставаўся цэлым. Атрымаў цяжкае раненне каля Жлобіна, дзе таксама ішлі доўгія і цяжкія баі. Гэта здарылася 21 студзеня сорак чацвёртага.

— Я адчуў моцны штуршок у жывот, — успамінае ветэран. — І мне стала горача, хаця стаяў дваццаціградусны мароз. — І першая думка: як буду сябе адчуваць паміраючы на снезе. Жыццё было пад пагрозай. Яму прабіла правую нырку. Пакуль даставілі да шпіталя, ён страціў шмат крыві. Агледзеўшы параненага, які ўжо губляў прытомнасць, хірург безнадзейна развёў рукі.

Малады, высокі і прыгожы Мікалай выклікаў спачуванне ў медыцынскай сястры Алены Хвашчэўскай, і яна ўгаварыла ўрача зрабіць аперацыю.

— Патрэбна кроў, многа крыві, — сказаў хірург.

— Я сваю дам, — сказала Хвашчэўская.

— Тады будзем аперыраваць, — пагадзіўся ўрач.

Пасля шпіталя Мікалай Гулевіч трапіў у 351-ы запасны стралковы полк на штабную працу: ваяваць са зброяй ў руках ён ужо не мог. Тут, каля берагоў акрываўленай Волгі, ён сустрэў доўгачаканы Дзень Перамогі і неўзабаве паявіўся ў роднай Рудні Нісімкавіцкай, крынічная вада якой яму мроілася ўсюды, дзе б ён ні быў, і асабліва ў спякотным Афганістане.

Амаль чатыры гады Мікалай Паўлавіч разам з жонкай Інесай Васільеўнай, таксама настаўніцай, адслужыў у гэтай дзяржаве, у якой з дапамогай нашых войскаў і спецыялістаў вялася своеасаблівая вайна. Дарадчык, а пасля і кіраўнік групы дарадчыкаў па народнай асвеце пры афганскай уладзе, Мікалай Паўлавіч цяпер рызыкаваў не толькі сваім жыццём, але і жыццём жонкі, якая дала згоду паехаць з ім на гэты фронт: горная, незнаёмая дзяржава, населеная шматлікімі плямёнамі, таіла небяспеку кожны дзень, кожны час. Гулевічы аднак вытрымалі і сваю справу народных асветнікаў самаадданa давялі да канца.

На Брэстчыне Мікалай Паўлавіч адпрацаваў каля трыццаці гадоў, дзесяць з якіх з'яўляўся дырэктарам Мотальскай сярэдняй школы. Тут ён пакінуў пра сябе добрую памяць. Гуманіст, сапраўдны педагог, ён нікому не прычыніў зла, з усімі быў уважлівы, за што людзі паважалі свайго кіраўніка.

Вось ужо некалькі год, як Гулевічы пражываюць у Мінску. Пасля Афганістана Мікалая Паўлавіча забралі на працу ў Міністэрства асветы, і ўжо адтуль ён выйшаў, як прынята казаць, на заслужаны адпачынак.

Нядаўна я сустрэў Гулевіча ў Мінску і, прызнаюся, быў нямала здзіўлены яго станам. Заўсёды бадзёры, усмешлівы, перада мною паўстаў стомлены і нібыта расчараваны жыццём чалавек.

— Што так уважліва глядзіш? — запытаў ён. — Гэта я — Гулевіч. — Толькі да мяне вялікае гора прыйшло, на сорак першым годзе памёр мой сын.

Прыгнечаны горам, Мікалай Паўлавіч моцна перажывае, пакутуе. "Не магу, — кажа, — глядзець на Інесу Васільеўну без болю ў сэрцы. Лепш бы я сам загінуў..."

Ветэран вайны і працы, заслужаны настаўнік рэспублікі, Мікалай Гулевіч заслугоўвае таго, каб пра яго сказаць цёплыя словы. Няхай яны хоць у якой-небудзь меры ўсцешаць яго. Мы прыходзім у гэты свет, каб рабіць адзін другому дабро. Хто чым можа... Інакш і само жыццё губляе ўсялякі сэнс.

**Мікалай ХАРОШКА.**

Брэст.

# Лёс нялёгкі, але слаўны

Л.М.Талстой пісаў, што нам толькі здаецца, што мы выбіраем жонку. На справе яна выбірае нас. Мы толькі прапануем сябе. Але выбар заўсёды за ёю. Тое самае можна сказаць пра працу. Нам здаецца, што мы выбіраем работу, але ж на самай справе гэта яна выбірае нас.

Але паглядзім гэта на прыкладзе майго жыцця.

У 1940 годзе я паступіў у Брэсцкае педвучылішча. Потым закончыў педінстытут.

Тое, што я стаў настаўнікам гісторыі, таксама не выпадкова. Дзякуючы чатыром самым паважаным мною настаўнікам гісторыі я сам стаў вывучаць, а потым выкладаць гісторыю. Трох з іх ужо няма на свеце. Чацвёрты чалавек, які навучыў мяне быць настаўнікам, паважаць людзей, любіць гісторыю і ўмець выкладаць яе, быць настойлівым, добрым, вясёлым, быў і ёсць Васіль Якаўлевіч Назараў.

Многа год ён быў дырэктарам школы № 57 сталіцы. Дзеці і настаўнікі паважліва называлі яго бацькам. Гэта вельмі высокае званне. Менавіта так называлі любімых і паважаных камандзіраў палкоў і камандзіраў партызанскіх атрадаў. Працаваць у школу № 57 ездзілі настаўнікі амаль з усіх раёнаў горада.

Нарадзіўся Васіль Якаўлевіч у 1918 годзе ў Тульскай вобласці. Да вайны скончыў сярэднюю школу. Працаваў настаўнікам пачатковых класаў. Затым прызвалі ў армію. Там пасля вучобы на курсах стаў маладым палітруком. Служыў да вайны ў Мінскай вобласці. Тут і сустрэў вайну. Разам з вайсковым падраздзяленнем аказаўся ў акружэнні, але палону пазбег, трапіў у партызанскі атрад, якім кіраваў Лаўрыновіч. Назараў і ў партызанскім атрадзе добра праявіў сябе. Ён зноў вучыць. Вучыць не дзяцей, а дарослых, вучыць абараняць Радзіму. Вучыць на гэты раз не словам, а справай. Потым Васіль Якаўлевіч стаў камісарам атрада і ваяваў аж да вызвалення Мінска, пасля чаго быў прызначаны кіраўніком ваеннай справы на Мінскі аўтамабільны завод, які ў той час будаваўся. Але не мог Назараў жыць без вучобы. Ён працуе і заканчвае Мінскі механічны тэхнікум. Другому гэтага было б дастаткова, але не настаўніку Назараву, не камісару Назараву. Ён выкладае ваенную справу ў тэхнікуме і вучыцца на вячэрнім факультэце педінстытута імя Горкага (цяпер — педагагічны універсітэт імя М.Танка). Становіцца настаўнікам гісторыі, каб вучыць дзяцей любіць Радзіму, вучыць словам і справай.

Пасля заканчэння педінстытута ідзе працаваць настаўнікам гісторыі і ваенруком. Там, у школе № 43, мы і сустрэліся. Былы камісар партызанскага атрада і былы работнік КДБ, старшы лейтэнант і лейтэнант.

Мы не сталі сябрамі, але ставіліся адзін да другога з вялікай павагай. Пасля пяці гадоў работы ў школе Назараў назначаецца дырэктарам 75-й сярэдняй школы. Да Васілія Якаўлевіча прыйшоў і я. Дзевяць гадоў я працаваў пад кіраўніцтвам Назарава. Гэта былі самыя лепшыя мае гады за час працы настаўнікам. А было іх нямала — сорак тры. Так што ёсць з чым параўнаць.

Назараў вучыў і сам вучыўся, вучыўся ў таго, каго вучыў. Адкрываюцца піянерскія летнікі, і ў школе № 57 яны — лепшыя ў горадзе. У школах зноў выкладаецца праца і зноў нефармальна адносіцца да працы В.Я.Назараў. Для краіны школа № 57 рыхтуе машыністак-стэнаграфістак, а для войска — вадзіцеляў грузавікоў. Да ваеннай падрыхтоўкі ў камісара партызанскага атрада В.Я.Назарава адносіны асаблівыя. Школа № 57 займае першае месца па пачатковай ваеннай падрыхтоўцы. Ваенрук школы Ахмед Шакіравіч у выглядзе выключэння нават атрымаў ваенае званне палкоўніка. Васіль Якаўлевіч становіцца выдатнікам народнай адукацыі, а неўзабаве яму было прысвоенна і воінскае званне капітана. Пасля выхаду на пенсію В.Я.Назараў зноў вучыць служыць Радзіме. Ён кіруе адным з лепшых пунктаў аховы грамадскага парадку.

Сёння Васілю Якаўлевічу 83 гады. Ён бадзёры, здаровы, цікавіцца падзеямі ў краіне і свеце. Пажадаем яму і надалей заставацца ў страі.

**Аляксей ЛІТВІНЧУК.**

# Сябе не шкадаваў

***Журналісцкі лёс звёў мяне з былым педагогам Сцяпанам Ціханавічам Конанавым. Нарадзіўся ён у вёсцы Буйна Сенненскага раёна Віцебскай вобласці ў настаўніцкай сям'і, скончыў вячэрнюю школу, рабфак. У пошуках лепшай долі разам з бацькамі апынуўся ў Бабруйску.***

Тут юнак уладкаваўся на завод слесарам-інструментальшчыкам, спалучаў працу з вучобай у Гомельскім педагагічным інстытуце. Скончыў два курсы. Энергічны, дзелавы, ён хутка стаў камсамольскім важаком, інструктарам абкама камсамола, затым дырэктарам школы Беластока.

Тут і застала яго вайна.

Шмат дзён Сцяпан Конанаў патраціў на тое, каб дабрацца ў Мінск, але так і не змог. Спыніўся ў саўгасе "Зелянкі" Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. Тут ён сустрэўся з мясцовымі патрыётамі. Пачалося партызанскае жыццё.

Успамінаючы баявыя будні, Сцяпан Ціханавіч адзначыў, што пэўны ўклад у нашу перамогу ўнеслі і былыя школьнікі. Яны збіралі зброю для партызан, распаўсюджвалі праўду аб Чырвонай Арміі.

Асабліва выдзеліў былы партызанскі камандзір дзеянні вучня Валодзі Няхайчыка. Яму было ўсяго дзевяць год. Смелы і рашучы хлапчук хадзіў у разведку, выконваў адказныя заданні партызанскіх камандзіраў.

Так у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі гартавалася маладое пакаленне. Усяго ў лясах Смалявіцкага раёна дзейнічала пяць партызанскіх атрадаў. Партызаны не давалі ворагу спакою ні днём, ні ноччу, нападалі на нямецкія гарнізоны, узрывалі чыгункі, ратавалі жыхароў з палону.

У 1943 годзе пад носам у немцаў у Смалявічах укралі цэлы вагон з дзецьмі, якіх гітлераўцы везлі ў Германію. У лесе стварылі партызанскую школу, дзе іх вучылі.

За час вайны С.Ц.Конанаў быў некалькі разоў паранены, двойчы кантужаны. Змагаўся камбрыг да таго часу, пакуль не вызвалілі Мінск.

Пасля вайны Сцяпан Конанаў актыўна ўдзельнічаў у аднаўленні разбуранай ворагам народнай гаспадаркі: фабрык, заводаў, бальніц і культурна-асветных устаноў.

Сцяпан Ціханавіч доўгі час працаваў у школах, стаў выдатнікам народнай асветы. І цяпер, у сваі 84 гады, ён цесна звязаны са школай, выступае перад вучнямі і педагогамі, заклікае іх быць вернымі сваёй Бацькаўшчыне, за якую пралівалі кроў іх дзяды і прадзеды.

**Аляксей КІРПІЧЭНКАЎ,**
**выдатнік народнай асветы.**

